Віктар Кажура

# АЗБУКА
## ў вершах і малюнках



Віктар Кажура

# АЗБУКА
## ў вершах і малюнках



Мінск
"Пачатковая школа"
2014



# А

Абрыкосы, апельсіны
І чубаты ананас
Мы нясём для Ангеліны,
Што чакае ў госці нас.

# Б

**Б**усел крочыў да **б**алота
Ды сустрэў там... **б**егемота:
— Ты чаго тут затаіўся?
Ці ў **б**алота праваліўся?






# В

**В**ерабей гасцей склікае,
Каб хутчэй ляцелі:
Ён частунак смачны мае —
**В**ішанькі паспелі.



# Г

Зашумеў гарэза-дождлжык —
Пад грыбок схаваўся вожык
І яго сям'я таксама:
Дзве дачушкі,
сын і мама.

# Д

Хмаркі дожджыкам заплачуць —
Па зямлі дажджынкі скачуць.
А ў траве гарацъ расінкі —
Сонца яркія іскрынкі.





# Е

Упрыгожым **е**лку самі
Мы гірляндамі-агнямі,
Паяскамі з мішуры —
Будзе свята дзетвары.



# Ё

Засмуціўся ў рэчцы **ё**ршык,
Так пачаў усім казаць:
— Я калючы, ды не горшы,
Каб са мной не сябраваць.



# Ж

Вось няўдача дык няўдача,
Што жырафа ледзь не плача:
Не пралезе яна ў дзверы —
Дзверы нізкія ў вальеры.



# З

**З**оркі ў небе зацвілі,
Нібы кветкі на **з**ямлі.
А рагаты месяц збоку
Пазірае хітрым вокам.



# І

Дзед Мароз ідзе, гуляе,
Дзівы-казкі рассыпае:
Іней ды сняжынкі
На кусты, сцяжынкі.



# Й

Во**й**кнуў за**й**ка:
"Што за цуд?
Зразумець я не магу:
Хто, скажы, павесіў тут
З розных колераў дугу?"



# К

Куры, качкі, кураняткі
Дружна пляскаюць у ладкі,
Певень грае на гармоні,
А індык у бубен звоніць.



# К

Куры, качкі, кураняткі
Дружна пляскаюць у ладкі,
Певень грае на гармоні,
А індык у бубен звоніць.



# Л

Восень мокрая ідзе —
**Л**ес хістаецца, гудзе:
Вецер дрэвы нахіляе,
**Л**ісце з голля абрывае.



# М

— Ты чаго міргаеш вокам,
На гары **м**аяк высокі?
— Караблю і **м**араходу
Дам я курс у непагоду.



# Н

**Н**еба зранку хмурыцца —
Будзе **н**авальніца.
Не пайду на вуліцу,
Каб не замачыцца.



# О

Я за тату сёння горды:
Атрымаў мой тата ордэн.
Ён з-пад лёду ды з вады
Ратаваў дзяцей з бяды.



# П

Узабраўся певень на высокі плот,
Позіркам акінуў двор і агарод.
Горлачка прачысціў, галаву падняў,
“Ку-ка-рэ-ку” звонкім сонейка вітаў.



# Р

Жаваранак звонкі
Раніцай спяваў,
І цвілі рамонкі
У расе між траў.



# С

Ты чаго, Сяргейка, рад
І пяеш бясконца?
— Мне купілі самакат,
Каб дагнаў я сонца.

# Т

Што ж ніяк не наглядзецца,
Не адвесці вока?
Там **т**рускалкі на **т**алерцы
Вабяць спелым бокам.





# У

Сёння ў хаце мышак свята —
Ураджай знялі багаты:
Жменьку збожжа, восем шышак —
Не бяда зіма для мышак.



# Ў

На вокнах — казачныя ўзоры,
На дрэвах — з інею ўборы,
А тут на снезе — снегіры,
Як жар марознае зары.




Падыміся раннім ранкам,
Выгляні ў аконца,
Расхіні шырэй фіранкі —
Пусці ў хату сонца.



# Х

Вунь на ўзгорку наша **х**ата —
Лёгка бачыцца здаля.
Там жывуць матуля, тата,
Дзед з бабуляю і я.



# Ц

Хто схаваўся за галіну,
За яловы сук
І балбоча без упыну?
Гэта **ц**эцярук.





# Ч

Па вадзе-балоце,
Дзе дрыгва лягла,
Чапля ў госці крочыць,
Крочыць да бусла.



# Ш

Па **ш**ашы бягуць машыны,
А **ш**аша — у тры рады,
Каб хутчэй маглі машыны
Мчаць туды і мчаць сюды.



# Э

Мы з сястрычкаю
здзівіліся,
І здзіўленне — без канца:
Эльфы добрыя з’явіліся
На пушынках-дзьмухаўцах.




Разгулялася **ю**ла —
Стала цеснай хата:
Ад канапы да стала
Месца малавата.

# Я

Прыпыніся на хвіліну,
Дзіва-цуд не прапусці:
Кветкі белыя **я**зміну
Пачалі цвісці.






Літаратурна-мастацкае выданне

КАЖУРА Віктар Віктаравіч

**АЗБУКА Ў ВЕРШАХ І МАЛЮНКАХ**

Мастак *А. Я. Саковіч*

Галоўны рэдактар *Н. Г. Ваніна*
Рэдактар *Д. В. Аўчароў*
Дызайн і камп'ютарная вёрстка *І. І. Радаман*
Карэктар *Г. В. Жураўлёва*

Падпісана ў друк 10.04.2014. Фармат 84×90 $^{1}/_{16}$.
Гарнітура Bukvarnaya. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,8. Ул.-выд. арк. 3,8. Тыраж 3000. Заказ 305.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Выдавецтва "Пачатковая школа".
Пасведчанне аб ДРВВРДВ № 1/50 ад 08.10.2013.
Вул. Фабрыцыуса, 5, каб. 201, 220007, г. Мінск. Тэл. 285-37-44, тэл./факс 233-99-34.
www.p-shkola.by; e-mail: psh@p-shkola.by

Надрукавана ў друкарні ААТ "Транстэкс"
Пасведчанне аб ДРВВРДВ № 2/37 ад 29.01.2014
Вул. Чапаева, 5, 220034, г. Мінск.

